РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 56 (7869) Заснавана ў красавіку 1931 года СУБОТА, 22 ліпеня 2000 г. Цана 25 руб.

## У РАЙВЫКАНКАМЕ

# Падрыхтоўка да ўборкі: удзячнасць і папрокі

На нечарговым пасяджэнні райвыканкама, якое адбылося 18 ліпеня г.г., разгледжаны вынікі работы па падрыхтоўцы тэхнікі да ўборкі збожжавых культур. Былі запрошаны старшыні і галоўныя інжынеры калгасаў, спецыялісты райсельгасхарчу, члены тэхналагічных груп, кіраўнікі раённых служб, шэфствуючых прадпрыемстваў, арганізацый.

Вёў пасяджэнне старшыня раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Барысаў. Ён заўважыў, у прыватнасці, што 22 ліпеня павінна адбыцца рэспубліканская селектарная нарада, прысвечаная правядзенню жніва, з удзелам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Ідзе падрыхтоўка да гэтай нарады, ажыццяўляюцца праверкі раёнаў, гаспадарак прадстаўнікамі Мінсельгасхарчу, аблвыканкама.

Што датычыць калгасаў нашага раёна, многія вострыя пытанні, звязаныя з фінансаваннем, пастаўкамі вузлоў і агрэгатаў, арганізацыяй рамонту тэхнікі, забеспячэннем кадрамі, аказаннем шэфскай дапамогі сялу, пасяхова вырашаны. Значная падтрымка сельгасвытворцаў аказана дзяржавай. Усё астатняе залежыць ад кіраўнікоў і спецыялістаў гаспадарак, забеспячэнцкіх, рамонтных, транспартных і іншых калектываў.

Былі заслуханы паведамленні старшыні раённага Савета дэпутатаў Мікалая Трубчыка, намеснікаў старшыні райвыканкама Віталя Грышанава, Віктара Сугакі, Валянціны Кавуновай, Мікалая Чэпікава, Васіля Мар'ева, кіраўніка справамі выканаўчага камітэта Мікалая Ільянкова, начальніка ўпраўлення інвестыцый і капітальнага будаўніцтва Валянціна Дударука аб ступені гатоўнасці замацаваных за імі гаспадарак да ўборкі ўраджаю. Райвыканкам заслухаў таксама справаздачы кіраўнікоў амаль усіх калгасаў, некаторых шэфскіх калектываў, упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання, спецыялістаў. Дарэчы, напярэдадні спецыяльна створаныя раённыя камісіі правялі праверкі збожжавых камбайнаў на машынных дварах калгасаў, склалі акты аб тэхнічнай падрыхтаванасці і герметызацыі, аснашчанасці ўсім неабходным.

Раённы выканаўчы камітэт адзначыў, што добра падрыхтавана да работы збожжаўборачная тэхніка ў калгасах "Прагрэс" і "Бароньki" (старшыні Фёдар Жукаў і Андрэй Піскуноў). Тут яна даведзена да ладу, абкатана ў полі.

Вялікую дапамогу гэтым гаспадаркам аказалі Касцюковіцкі вытворчы ўчастак Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода, райпа (кіраўнікі Мікалай Лапо, Валерый Марозаў). Яны выканалі заданні згодна з рашэннем райвыканкама па забеспячэнню калгасаў неабходнымі матэрыяламі, сродкамі. Вытворчы ўчастак выдзеліў на перыяд жніва калгасу "Бароньki" аўтамашыну для перавозкі зерня.

Старшыня райвыканкама М. Р. Барысаў з шчырай удзячнасцю сказаў, што ўвогуле кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый горада, за выключэннем раёна электрасетак, сур'ёзна аднесліся да выканання дадзеных ім даручэнняў дапамагчы сельскім механізатарам паставіць на лінейку гатоўнасці калгасныя камбайны. У гаспадаркі былі накіраваны газаэлектразваршчыкі, токары. Калгасам выдзелена шмат чаго. Дырэктар леспрамгаса Міхаіл Філіпеня, да прыкладу, распарадзіўся выдаць для калгаса "Новае жыццё" чатыры тоны дызельнага паліва. Справы хлебаробаў успрынялі, як уласныя, кіраўнікі раёна газазабеспячэння Анатоль Ермакоў і прадпрыемства меліярацыйных сістэм Петр Білань, хлебазавода – Леаніда Смоліна, сельскага жыллёва-камунальнага камбіната Мікалай Мамонаў, калектыву "Утарчармета" Віктар Куст, унітарнага прадпрыемства "Водаканал" – Петр Барыкін, выконваючая абавязкі ўпраўляючага аддзялення Аграпрамбанка Тацяна Белабарод і многія іншыя. Шмат камбайнаў калгасаў прайшлі складаны рамонт у майстэрнях ААТ "Касцюковіцкае райаграпрамтэхэнерга". І тут ёсць вялікая заслуга дырэктара таварыства Міхаіла Патапенкі, інжынерна-тэхнічных работнікаў і рабочых. Папрацавала як след служба ААТ "Касцюковіцкае райагратэхзабеспячэнне" на чале з Васілем Захарэнкам. Сістэматычна аказвае дапамогу падшэфным гаспадаркам цэментны завод. Аддадзена належнае яго дырэктару Уладзіміру Кісялёву.

Нягледзячы на вядомы дэфіцыт, іншыя прычыны, дырэкцыя акцыяніраванага прадпрыемства "Касцюковічынафтапрадукт" усё ж забяспечвала калгасы гаруча-змазачнымі матэрыяламі. Дзякуючы гэтаму яны змаглі падрыхтаваць і праверыць камбайны, выконваць неадкладныя гаспадарчыя работы. Павага да дырэктара прадпрыемства Івана Міхальчанкі – заслужаная.

Цёплыя словы былі сказаны ў адрас кіраўнікоў аўтапарка № 8 Васіля Струкава, аўтабазы аблспажыўсаюза Аляксандра Самасюка.

Кантраляваў ход рамонту тэхнікі ў раёне, аказваў кваліфікаваную дапамогу кадрам на месцах, вырашаў вострыя праблемы рамонту і забеспячэння намеснік начальніка райсельгасхарчу па механізацыі Леанід Ус.

У той жа час на пасяджэнні райвыканкама падкрэслівалася, што ў калгасах яшчэ нямала няспраўнай і не падрыхтаванай як след збожжаўборачнай тэхнікі. Не хапае акумулятараў, некаторых агрэгатаў да камбайнаў. Неабходна выканаць значны аб'ём рамонту. Нізкая забяспечанасць гаспадарак палівам і маслам.

Так, у калгасах імя Калініна, "Кранштат", "Смолькі", імя Карла Маркса, "Ленінскі шлях", "Забычанне", "Новы быт", "Праўда" і некаторых іншых дагэтуль не пастаўлены на лінейку гатоўнасці па некалькі камбайнаў, што выклікае заклапочанасць і трывогу. Некаторыя кіраўнікі позна прызначылі механізатараў для рамонту ўборачнай тэхнікі. Іншыя несвоечасова вырашылі ўзнікшыя пытанні па яго арганізацыі, забеспячэнню. Гэта – мінус у рабоце гаспадарчых кіраўнікоў.

Заслуханы справаздачы старшынь названых вышэй калгасаў Людмілы Пратасавай, Аляксандра Нікалаенкі, Уладзіміра Барысенкі, Івана Агеева, Мікалая Таўпекі, Рыгора Чэпікава, Віталя Шышова, Вячаслава Арэхава і іншых. Райвыканкам прыняў да ведама іх запэўніванні ў тым, што будуць прыняты неабходныя меры па неадкладнаму завяршэнню рамонту камбайнаў, іншай уборачнай тэхнікі. Дадзены два-тры дні для таго, каб гэта было зроблена. Потым будзе ажыццёўлена праверка гатоўнасці да жніва з адпаведнымі вывадамі і прапановамі.

Завяршаючы пасяджэнне, М. Р. Барысаў звярнуў увагу прысутных на тое, што прадстаячая ўборка будзе складанай у сувязі з неспрыяльнымі ўмовамі надвор'я і па некаторых іншых прычынах. Тым не менш, неабходна выратаваць хлеб. Ураджай збожжавых культур вырашчаны добры. Убраць яго без страт – задача дзяржаўная. Трэба зрабіць усё залежачае ад нас, каб раён унёс свой уклад у забеспячэнне харчовай бяспекі краіны. Расходуюцца вобласцю вялікія сродкі на набыццё збожжа за рубяжом. А яны ж патрэбны для ўстаноў аховы здароўя, адукацыі і культуры.

Да пачатку масавага жніва варта абкатаць і праверыць на збожжавай ніве ўсе камбайны калгасаў.

## НАСУСТРАЧ ВЫБАРАМ

# Парламенцкія выбары ў Беларусі пройдуць 15 кастрычніка

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка назначыў дзень правядзення выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу – 15 кастрычніка 2000 года. Згодна з падпісаным у сувязі з гэтым Указам Прэзідэнта, Савет Міністраў рэспублікі павінен забяспечыць фінансаванне расходаў на падрыхтоўку і правядзенне выбараў, а таксама ўстанавіць парадак прадастаўлення дзяржаўнымі органамі, грамадскімі аб'яднаннямі і іншымі арганізацыямі памяшканняў для выбарчых участкаў. Цэнтрвыбаркаму Беларусі і Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі даручана распрацаваць парадак і забяспечыць выступленні кандыдатаў у дэпутаты па дзяржаўнаму тэлебачанню і радыёвяшчанню.

**БелТА.**

## АКТУАЛЬНЫ КАМЕНТАРЫЙ

# СТАРТАВАЎ ВЫБАРЧЫ МАРАФОН

Назначаным на 15 кастрычніка 2000 года Прэзідэнтам краіны выбарам у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу было прысвечана 13 ліпеня пасяджэнне Цэнтральнай выбарчай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў.

Паводле слоў старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай, менавіта з гэтага дня пачынаецца трохмесячны выбарчы марафон, які будзе для краіны важнейшай палітычнай падзеяй апошняга года адыходзячага стагоддзя. Яна адзначыла, што назначэнне даты выбараў, несумненна, унясе змяненні ў вялацякучае летняе палітычнае жыццё, надасць яму новы дынамізм. Любыя змяненні ў дзяржаўнай уладзе заўсёды прыцягваюць увагу насельніцтва, — сказала кіраўнік Цэнтрвыбаркама, — а выбары і з'яўляюцца адным са сродкаў пераразмеркавання палітычных сіл у грамадстве.

Да маючых адбыцца выбараў прыкавана асаблівая ўвага грамадскасці як унутры краіны, так і за мяжой. Гэта звязана і з палітычнай абстаноўкай у рэспубліцы, і з прыняццем новага Выбарчага кодэкса, у якім у канцэнтраванай форме выкладзены асноўныя правілы выбарчай гульні. Дарэчы, у гэтым дакуменце змяшчаецца шэраг наваўвядзенняў, якія значна ўзбагачаюць дэмакратычныя прынцыпы выбарчай кампаніі. Гэта датычыць пашырэння правоў наглядальнікаў, працэдуры праверкі падпісных лістоў і многага іншага.

Як адзначыла Лідзія Ярмошына, першае арганізацыйнае пасяджэнне Цэнтрвыбаркама, якое працягвалася больш чым дзве з палавінай гадзіны, было вельмі плённым і насычаным на рашэнні. Зацверджаны ўвесь пакет выбарчай дакументацыі: формы бюлетэняў, падпісных лістоў, пратаколаў і іншых абавязковых у гэтых выпадках папер. Прыняты каштарыс расходаў, атрымала дабро метадычнае пісьмо ў дапамогу мясцовым выбарчым камісіям, у якім дадзены тлумачэнні тым або іншым палажэнням выбарчага заканадаўства.

На пасяджэнні камісіі зацверджана пастанова, якая датычыць парадку галасавання за мяжой, рэгістрацыі замежных і мясцовых наглядальнікаў, выкарыстання бюджэтных і пазабюджэтных сродкаў. У прыватнасці, у адпаведнасці з Указам Прэзідэнта аб назначэнні выбараў, у мэтах дадатковага фінансавання выбарчай кампаніі ствараецца пазабюджэтны фонд для добраахвотнага пералічэння ў яго сродкаў грамадскімі аб'яднаннямі, іншымі арганізацыямі і грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, як адзначыла Лідзія Ярмошына. Такі фонд дзейнічаў і пры правядзенні выбараў у мясцовыя Саветы. Аднак, на жаль, сродкаў у яго не паступала. Кіраўнік Цэнтрвыбаркама спадзяецца, што цяпер становішча зменіцца да лепшага і выбарчая нагрузка на дзяржбюджэт будзе меншая.

Выбарчы марафон узяў старт, ужо нарэзана 110 акруг. Выбраным у іх праз тры месяцы прадстаўнікам заканадаўчай улады будзе суджана адкрываць палітычную карту нашай краіны трэцяга тысячагоддзя.

**Віктар ЛОЎГАЧ.**

# Па каляндарнаму плану

У нашым раёне пачалася актыўная работа, звязаная з прадстаячымі выбарамі дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь другога склікання. Старшыня райвыканкама Міхаіл Барысаў зацвердзіў распрацаваны каляндарны план асноўных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенню выбараў.

Згодна з гэтым планам, 19 ліпеня 2000 года праведзена нарада з апаратам райвыканкама, старшынямі і сакратарамі сельскіх выканаўчых камітэтаў. Вёў нараду намеснік старшыні раённага выканаўчага камітэта Віктар Сугака. Разглядаўся Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь, з якім удзельнікаў сходу азнаёміў загадчык аддзела арганізацыйна-кадравай работы Сяргей Стасеў. В. І. Сугака даваў неабходныя тлумачэнні па артыкулах гэтага заканадаўчага дакумента, паколькі прысутныя задавалі нямала пытанняў. Перад мясцовымі органамі ўлады пастаўлены канкрэтныя задачы па падрыхтоўцы да выбараў у беларускі парламент.

Працоўныя калектывы прыступілі да вылучэння прадстаўнікоў у склад акруговай выбарчай камісіі Касцюковіцкай выбарчай акругі. Такія сходы адбыліся ўжо ў дзіцячым садку № 8 "Ручаёк" і райвыканкаме.

Дарэчы, у Рэспубліцы Беларусь створана 110 выбарчых акруг, у Магілёўскай вобласці – 13. Адна з іх – Касцюковіцкая, куды ўвайшлі Касцюковіцкі, Хоцімскі, Краснапольскі, Клімавіцкі раёны. Цэнтр акругі — г. Касцюковічы. Агульная колькасць выбаршчыкаў нашай акругі 71184 чалавекі, з якіх 22900 – жыхары раёна. У адпаведнасці з колькасцю выбаршчыкаў у склад акруговай выбарчай камісіі калектывы Касцюковіцкага раёна вылучаць 4 прадстаўнікі.

## ЗВЕСТКІ

***аб надоях малака па стану на 20 ліпеня 2000 г.***

*Першая калонка – назвы гаспадарак, другая – надоена ў 2000 годзе (кг), трэцяя – надоена ў 1999 годзе (кг), чацвертая – надоена за дзень ад каровы ў 2000 годзе (кг), пятая – надоена ад каровы ў 1999 годзе.*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| імя К. Маркса | 5070 | 4950 | 6,6 | 6,5 |
| "Новае жыццё" | 5040 | 4663 | 9,3 | 8,8 |
| "Прагрэс" | 4720 | 4758 | 8,5 | 8,7 |
| "Расія" | 4603 | 4359 | 7,4 | 6,8 |
| "Пар. камуна" | 4290 | 3720 | 11,9 | 10,6 |
| "Новы быт" | 3480 | 3150 | 10,5 | 10,4 |
| "Радзіма" | 3200 | 2850 | 9,9 | 9,1 |
| імя Калініна | 2843 | 2350 | 8,4 | 6,9 |
| "Бароньki" | 2812 | 2610 | 8,3 | 7,7 |
| "Лен. шлях" | 2690 | 2680 | 7,4 | 7,4 |
| "Кранштат" | 2599 | 2680 | 6,5 | 6.3 |
| "Смолькі" | 2462 | 2375 | 7,7 | 7,4 |
| "Дуброва" | 2045 | 2810 | 8,3 | 7,8 |
| "Праўда" | 1955 | 2008 | 7,0 | 7,2 |
| "Забычанне" | 1672 | 1920 | 7,5 | 6,7 |
| **ПА РАЁНУ:** | **49481** | **47883** | **8,23** | **7,77** |

## ВЕСТИ ИЗ ЛЕСХОЗА

# Поделились опытом

Недавно на базе Костюковичского опытного лесхоза прошел отраслевой семинар руководителей предприятий лесного хозяйства, лесной, бумажной и деревоперерабатывающей промышленности Могилевской области.

В работе семинара приняли участие генеральный директор Могилевского производственного лесохозяйственного объединения В. А. Раевский, президент концерна "Беллесбум" Н. Н. Крутой, генеральный директор "Могилевдрев" А. Я. Котляров, председатель Могилевского обкома профсоюза работников леса М. К. Сацук, директора лесхозов и леспромхозов области.

На семинаре был рассмотрен опыт работы Костюковичского лесхоза и ОАО "Костюковичский леспромхоз" по проведению несплошных рубок главного пользования, развитие социальной сферы. В ходе семинара участники его ознакомились с работой деревообрабатывающего цеха, с внедрением нового отопительного оборудования в котельной лесопунткта, которое работает на отходах производства.

В Паньковском лесничестве была предоставлена возможность воочию убедиться во внедрении конной трелёвки, её приспособлений, а также в строительстве инженерных сооружений на лесных дорогах, организации работ и других лесохозяйственных мероприятий, проводимых лесхозом. Здесь же, в 145 лесном квартале, участники семинара ознакомились с технологией лесорубочных работ, проводимых ОАО "Костюковичский леспромхоз".

На базе леспромхоза участники семинара ознакомились с устройством быта его работников, организацией питания.

Участниками семинара было отмечено немало положительного в организации работ в лесхозе и леспромхозе, высказаны предложения, что необходимо внедрять в практическую деятельность на местах.

Подведение итогов семинара состоялось в райисполкоме. В нем принял участие и выступил председатель райисполкома М. Г. Борисов.

За высокую организацию работ и проведение отраслевого областного семинара его организаторам, директорам Костюковичского опытного лесхоза В. А. Терещенко, ОАО "Костюковичский леспромхоз" – М. Г. Филипеню вручены благодарственные письма Могилевского обкома профсоюза работников леса.

## Согласно нового устава

На основании приказа Министерства лесного хозяйства Республики Беларусь государственное лесохозяйственное предприятие "Костюковичский лесхоз" преобразовано в государственное учреждение "Костюковичский опытный лесхоз".

Согласно нового устава учреждения лесхоз может заниматься опытно-производственной деятельностью. Это внедрять научные разработки и передовой опыт по многоцелевому комплексному использованию древесных и недревесных ресурсов, новейшие достижения лесной селекции и семеноводства, средства и меры борьбы с сорняками и вредителями леса. Участвовать в испытаниях новейших образцов машин и механизмов для лесного хозяйства и др. Проводить семинары, конференции, научно-технические советы Минлесхоза по пропаганде опыта работы лесохозяйственных учреждений.

## Соревновались вальщики

В городском посёлке Белыничи состоялся областной конкурс вальщиков леса. С целью пропаганды профессии вальщика леса, мероприятие прошло на городском стадионе. В соревнованиях приняли участие специалисты по валке леса всех лесхозов области, кроме того вне конкурса выступали команды с других лесохозяйственных объединений республики.

Команду Костюковичского опытного лесхоза представляли вальщики Николай Орехов и Степан Миронов под руководством главного лесничего лесхоза Владимира Елисеенко.

Успешно выступил в личном зачете Николай Орехов, который занял пятое место. Команде вальщиков леса нашего района досталось седьмое место.

**Владимир ТАРАКАНОВ,**
**юрисконсульт лесхоза.**



**Ёсць людзі, для якіх выбраная аднойчы прафесія становіцца сэнсам жыцця і творчага натхнення. Менавіта да такіх людзей належыць Таццяна Яўгенаўна Войценка. Закончыўшы Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум імя А. С. Пушкіна, яна адразу паступіла ва ўніверсітэт культуры на завочнае аддзяленне. Паступова, як кажуць, расла на рабоце ад бібліятэкара да загадчыцы аддзела абслугоўвання і інфармацыі. Працавітая, мэтанакіраваная, патрабавальная да сябе і іншых работнікаў, цікавы субяседнік і чалавек справы.**

**Каб арганізаваць работу аддзела, стварыць неабходныя ўмовы для працы, для творчага росту работнікаў, патрэбна быць майстрам пяра і слова, арганізатарам добрых спраў. І з гэтым усім Таццяна Яўгенаўна спраўляецца выдатна.**

**На здымку: Т. Я. ВОЙЦЕНКА.**
**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

# СВЯТЛО РОДНЫХ АКОН

## ЖЫЦЦЁ НАША

Цёплы жнівеньскі вечар. Каля дома, як заўжды ў такі час, людна. Маладыя маці гуляюць з немаўлятамі, бабулькі цешацца з унукаў, якія тут жа бегаюць, прыгаюць, суседзі, ветліва павітаўшыся, пачынаюць расказваць гарадскія навіны, цікавіцца жыццём-быццём.

— Далёка я цяпер жыву... ў інтэрнаце... ў Драгічынскім раёне аж. Мінула ўжо восем год... Прыехаў вось дамоў... да дзядзькі. Пятнаццацігадовы Кірыл раптам заплюшчвае вочы: ці то ад спякотнага сонца, ці то каб схаваць ад знаёмых яму людзей нежаданыя слёзы.

Я памятаю яго хлопчыкам... Занадта маленькі для свайго ўзросту, амаль заўсёды галодны. Ён не памятаў свайго бацькі, а маці і бабуля, з якімі ён жыў, бязбожна пілі. Затым з'явіўся і айчым. І хоць ён быў чалавек можа і някепскі, але надта ўжо жорстка спрабаваў паставіць на шлях праўдзівы маці Кірыла. Суседзі не раз былі сведкамі сямейных скандалаў, выклікалі міліцыю і "хуткую дапамогу".

Жыццё, вядома ж, не ладзілася. З'яўленне дзяцей – аднаго за другім – нікога, зразумела, не радавала. Яны сталі абузай для п'яніцы-маці. Калі б не змены, што адбыліся ў іх жыцці, чакаў бы дзетак лёс Кірыла.

Нечакана памерла бабуля і, недарма ж кажуць, што бяда не ходзіць адна, яна звяла рахунак з жыццём маці Кірыла. Айчым, знайшоўшы другую жанчыну, забраў малодшых дзяцей да сябе, а вось Кірыл застаўся нікому не патрэбным...

Сіраце не далі загінуць, уладкавалі ў інтэрнат. З тае пары мінула ўжо некалькі гадоў. Хлопчык вырас. Цяпер ён стаіць, нялоўка перамінаючыся з нагі на нагу, слухае добрыя пажаданні суседзяў (людзі памятаюць гэту сям'ю), многія зычаць яму стаць сумленным чалавекам.

Мне таксама хочацца верыць, што абміне яго жодзінскі "шлях жыцця". (Сумна вядома выказванне ў горадзе Жодзіна. Там тры розныя ўстановы – дзіцячы дом, інтэрнат, турма – знаходзяцца амаль побач. Дарогу, што звязвае іх, людзі і называюць "шляхам жыцця").

Многія з тых, каму ў жыцці не пашчасціла, на жаль, сапраўды, выбіраюць сабе такі шлях жыцця.

Але да Кірыла, спадзяюся, лёс будзе міласцівы. Няхай будзе і ў яго хоць крышачку радасці, шчасця.

Занятая сваімі думкамі, я і не заўважыла, як хлопец, развітаўшыся, пациху пакрочыў у бок мікраераёна – там жыве дзядзька...

Міжволі думаю, што яму ж, напэўна, нядрэнна было ў інтэрнаце – заўсёды накормлены, чысты, дагледжаны... Але колькі іх такіх, як Кірыл, заўсёды будуць ісці, ехаць, спяшацца да роднага дома.

**Алеся ШМАЕРАВА.**

## НАМ ПІШУЦЬ

# *У памяці назаўсёды*

*Наша вёсачка да вайны была ахутана лесам. Дрэвы падступалі да самых агародаў. У той час у Каменцы жылі дваццаць сем'яў. Жылі дружна, дапамагалі адзін аднаму араць, сеяць, распрацоўваць дзялянкі ў лесе пад сяўбу. Карацей, працавалі, каб у кожнага было ўдосталь агародніны, ды і хатняй жывёлы. Тут часта гулялі вяселлі, збіраліся на вечарынкі.*

*І вось 22 чэрвеня 1941 года спакой маёй вёсачкі парушыла страшная вестка: "Пачалася вайна". Ужо ў чэрвені 12 маладых мужчын пайшлі абараняць сваю Радзіму ад ворага. Засталіся жыць тут толькі старыя, жанчыны ды дзеці. Увесь цяжар хатніх клопатаў лёг на іх плечы.*

*Асабліва пацярпела наша вёсачка ў 1943 годзе. У лютым надвячоркам уварваліся на вуліцу немцы, сагналі ўсіх жыхароў Каменкі ў адну хату і хацелі спаліць іх. Аднак з лесу прыскакаў коннік, які забараніў гэта рабіць. Ён даў загад гнаць усіх людзей пешшу на станцыю Бялынкавічы. Зіма, мароз, глыбокі снег, а вяскоўцы былі лёгка апрануты, аднак, гэта нікога не хвалявала. Так, тры дні ў холадзе, без ежы людзі пакутавалі на снезе. Потым іх адпусцілі і да вёскі дабіраліся хто як мог. А тым часам на яе месцы было ўжо папялішча, вёску спалілі ворагі. Палічылі немцы Каменку партызанскай вёскай. Хаця і не без падстаў. Два падлеткі – Міхаіл Амчалка і Мікалай Дзмітрачэнка – даносілі партызанам звесткі аб месцы знаходжання немцаў. А Еўдакія Дзмітрыеўна Дзмітрачэнка пякла хлеб і насіла ў лес партызанам. Тады і выпала самае цяжкае выпрабаванне для людзей. Жыць не было дзе, ежы таксама. Хадзілі па суседніх вёсках, прасіліся пераначаваць, паесці, рады былі любой вопратцы, якую атрымлівалі ад сардэчных людзей. І так два гады давялося пакутаваць старым, жанчынам і дзецям, пакуль не скончылася вайна. Але з прыходам перамогі, не адразу наладзілася жыццё. Бо ў вёску вярнуліся толькі два мужчыны А. П. Трушчанка, У. М. Раўнягін. Уладзімір Мікітавіч дапамагаў удовам будаваць жыллё. Тады ў вёсцы Каменка было пабудавана 30 хат.*

*Прайшло шмат часу з той пары. Наша вёска пастарэла ў прамым і пераносным сэнсе. Тут жыве толькі адзінаццаць сем'яў. І мы помнім нашых абаронцаў. Удзячны тым, хто вярнуўся з вайны і дапамог будаваць новае жыццё.*

**Іван РАЎНЯГІН,**
**ураджэнец вёскі Каменка.**

## КУЛЬТУРА

# *Гучалі прыпеўкі над Сожам*

У г. Слаўгарадзе чацвёрты раз праводзілася свята народнай прыпеўкі, у якім прынялі ўдзел 250 прыхільнікаў гэтага жанру з 18 гарадоў і вёсак Магілёўскай вобласці. Касцюковічы на гэтым свяце прадстаўлялі народны ансамбль "Калініца" раённага Цэнтра культуры (кіраўнік Л. Гіркіна), Марыя Даніленка – вядомая ў горадзе частушачніца і сям'я Леаненкаў – маці Тацяна, сыны Дзяніс і Эдуард.

Гасцінна сустрэла Слаўгарадчына гасцей свята. І хаця на вуліцы ішоў дождж, ва ўсіх быў добры настрой. У першы дзень лепшыя нумары адбіраліся на гала-канцэрт.

Цяжка было журы выбраць лепшых з лепшых, бо сабраліся тут сапраўдныя майстры прыпеўкі.

У той жа дзень былі аб'яўлены калектывы, якія прымуць удзел у гала-канцэрце. А вечарам, пасля невялікага адпачынку, усе ўдзельнікі свята давалі канцэрты ў бліжэйшых вёсках Слаўгарадскага, Чэрыкаўскага, Чавускага раёнаў.

Ансамбль "Калініца", а таксама М. Даніленка і сям'я Леаненкаў разам з Горацкімі самадзейнымі артыстамі выступілі з канцэртам перад жыхарамі вёскі Рэкта. Атмасфера цеплыні адчувалася і тут як з боку прыйшоўшых у клуб вяскоўцаў, так і ўдзельнікаў канцэрта. Словы ўдзячнасці ад імя жыхароў вёскі выказаў старшыня мясцовага калгаса. Там жа для самадзейных артыстаў была арганізавана вячэра.

Наступны дзень свята народнай прыпеўкі адкрыўся шэсцем усіх яго ўдзельнікаў. Дарэчы, у першых яго радах ішлі прадстаўнікі Касцюкоўшчыны. З музыкай, песнямі, прыпеўкамі накіроўваліся ўсе на бераг ракі Сож, дзе на ўлонні цудоўнага пейзажу і адбыўся святочны гала-канцэрт.

Напачатку перад удзельнікамі свята выступіў старшыня Слаўгарадскага раённага выканаўчага камітэта В. Берастаў. Ён павіншаваў усіх са святам, пажадаў поспехаў. Такія мерапрыемствы павінны праводзіцца, зазначыў ён, бо яны дапамагаюць нам жыць, працаваць.

Ганаровае права першымі адкрыць яго было прадастаўлена ансамблю "Калініца" прывітальнай песняй. І зноў адзін калектыў змяняў другі: прыпеўкі, вясёлыя найгрышы кранalі, бадай, кожнага. Настрой ва ўсіх быў прыўзняты.

Пасля канцэрта адбылося ўзнагароджванне лепшых калектываў. Павіншаваў усіх удзельнікаў свята і ўручыў узнагароды начальнік абласнога ўпраўлення культуры М. Дарашкоў.

Дыплом трэцяй ступені і падарунак атрымаў і ансамбль "Калініца". Дыпламам другой ступені і памятным падарункам адзначана выступленне Марыі Даніленка, дыпломам трэцяй ступені і падарункам – сям'я Леаненкаў.

**Валянціна ФРАЛЯНКОВА.**

# ПОДГОТОВИМСЯ СЕГОДНЯ – НЕ ЗАМЕРЗНЕМ ЗИМОЙ

В народе говорят: "Хороший хозяин готовит сани летом, а телегу – зимой". Для обеспечения нормальных условий труда, а так же соблюдения технологических режимов производства и достижения нормативных температур в жилых домах, руководителям предприятий и хозяйств нашего района тоже приходится задумываться о предстоящей зиме, хотя на дворе еще середина лета.

В помощь организаторам подготовки энергоустановок к осенне-зимнему периоду Государственным энергетическим надзором Республики Беларусь в мае месяце были разосланы всем руководителям предприятий и хозяйств информационные письма-предписания с перечнем недостатков и упущений в работе энергослужб предприятий, выявленных минувшей зимой, а также рекомендации по проведению мероприятий, необходимых для обеспечения надежности и бесперебойности энергоснабжения.

Насколько же мы готовы к предстоящей зиме?

Районной инспекцией энергонадзора в июле проводились проверки хода подготовки к работе в осенне-зимний период. Они показали, что мероприятия по подготовке к зиме ведутся, но работы выполняются лишь на 60-80 процентов от запланированных в связи с необеспеченностью объектов материально-техническими ресурсами.

Наиболее подготовленным оказалось тепловое хозяйство хлебозавода. Здесь назначен человек, ответственный за эксплуатацию. Персонал прошел аттестацию, ведется восстановление изоляции паропровода.

Полным ходом идет выполнение мероприятий по подготовке к зиме теплового хозяйства РПО ЖКХ: ведутся ремонтные работы на котельных и центральных тепловых пунктах, производится восстановление теплоизоляции, промывка систем отопления жилого фонда.

Руководители названных предприятий, а также лица, ответственные за эксплуатацию теплового хозяйства, стараются довести до конца решение вопросов.

Хочется надеяться, что приход зимы не застанет врасплох руководителей и не омрачит жизнь людей, которые для того, чтобы согреться в холодное время, вынуждены будут проявлять элементы хитрости и идти на различные уловки.

Руководителям всех организаций и хозяйств необходимо обеспечить завершение работ по подготовке к зиме до начала отопительного сезона, чтобы внезапные холода не обернулись неразрешимыми проблемами.

**Виктор ГОМОНОВ,**
**инспектор районной инспекции энергонадзора.**

